ББК 84Бел7
Ч97

4

Аўтар прадмовы
*Пятрусь Макаль.*

Поэт и литературовед Ян Чиквин (род. в 1940 г.) живет в Польской Народной Республике. Он автор ряда поэтических сборников, в разные годы изданных на белорусском языке в Белостоке. Стихи, составившие книгу «Светлый миг», вобрали в себя краски, неповторимые звуки и темперамент речевой стихии Белостотчины. Любовь и память, родина и природа — вот основные мотивы, близкие сердцу поэта.

Ч $\frac{4702120202-040}{М302(03)-89}$ 66-89

ISBN 5-340-00211-X

# Зямныя вытокі

Гэта відавочная ісціна: як бы ні склаўся лёс паэта, у якія б абставіны ён ні трапіў, а жывяць яго творчасць вытокі роднай зямлі, непазбыўныя ўражанні маленства, якія ўзнікаюць ад першапачатковага дотыку да жыцця, ад усведамлення сваёй чалавечай існасці. Ян Чыквін, нараджэнец вёскі Дубічы Царкоўныя, што на Беласточчыне,— зараз дацэнт Варшаўскага універсітэта, чалавек высокай адукацыі і сучаснай культуры. А крыніцай яго паэзіі ўсё ж з'яўляюцца бацькоўскі куток зямлі, тое хлебадайнае поле, якія далучылі яго, вясковага хлапчука, да непаўторнага хараства роднай прыроды, да цудадзейнасці сялянскай працы. Якім бы прыкметным ні быў уплыў на творчасць Яна Чыквіна сучасных авангардысцкіх плыняў польскай паэзіі, вобразы і рытмы яго творчасці нараджае стыхія жыцця хлебаробаў — палёт збожжа з далоні сейбіта, бег баразнаў, якія дымяцца за плугам аратага, калыханне налітых сонцам каласоў — тым золатам, якім зямля шчодра аплочвае нялёгкія будзённыя турботы яе гаспадара. 5

Зрокавыя зямныя вобразы, нібыта выхапленыя вокам фотаапарата, дзякуючы рабоце аўтарскай думкі даюць магчымасць надаваць вершаваным радкам паэтычную шматмернасць, гучанне мастацкага абагульнення, разуменне дыялектычнай сувязі мінулага і сённяшняга:

*За вёскай з сена ўставала надранне,*
*З-за лесу сонца цякла пазалота,*
*Як быццам нехта кранаў фартэпіяна*
*На выраслых па гародах нотах.*
*Усё было справядліва ў прыродзе —*
*Далёка дзесьці была недарэчнасць*
*Адвечнай смерці, што прыйдзе і пойдзе,*
*А ўсё-такі нешта пакіне на вечнасць.*

Лепшыя вершы Яна Чыквіна яшчэ раз пацвярджаюць: сапраўдная паэзія нараджаецца не з абстрактных рацыянальных канструкцый, а з праўды жыцця, з тых рэалій, якія складаюць біяграфію лірычнага героя і яго пакалення, яго часу. Аказваецца, самая звычайная з'ява,

кожнаму добра знаёмая, калі яна становіцца прадметам пільнага мастакоўскага роздуму, можа выпраменьваць святло паэзіі:

*Зялёным агнём набрыняла трава.*
*Гэта радасць вясны, а мяне там няма.*
*Ходзіць вецер па полі на тонкіх нагах.*
*Гэта песня зямлі, а мяне там няма.*

*Праз дзён пясок і камене начэй*
*Прарастае сляза гарадскіх вачэй.*

Што гэта — настальгія па сельскім побыце? Не, гэта боль за зямлю нашу — калыску людзей. З гранічнай сцісласцю ў шасці радках перададзена драма веку, якая хвалюе сёння ўсіх,— аддаленне чалавека ад прыроды, той, якая яго нарадзіла і якая можа загінуць па ягонай жа волі.



Цікава, што нават у вершах, тэматычна звязаных з сучасным горадам, Ян Чыквін у пабудове сваіх паэтычных вобразаў не можа абысціся без катэгорый мыслення чалавека вёскі. Вось страфа з верша «Навальніца ў Беластоку 1981 года»:

*Быў цяжкі дождж.*
*І божы дзень быў хісткі, як дрыгва.*
*Грымела ў калодзежах дамоў,*
*Як мора вечнае гвалтоўні.*

Зразумела, што і «дзень хісткі, як дрыгва», і «калодзежы дамоў» маглі з'явіцца толькі пад пяром гараджаніна, які паходзіць з вёскі і таму з такой вастрынёй адчувае сутыкненне прыроднай стыхіі і машыннай цывілізацыі.

Яшчэ адзін прыклад з верша «Варшава»:

*Ёсць у Варшаве хараство*
*Грэцкіх німф і рымскіх карыятыд,—*
*Калі з неонавых кастроў,*
*Вечарам,*
*Сірэнай з Віслы, голая,*
*Выходзіш ты*
*І неба зорнае*
*Рукою кволаю*
*У ручніку разгорнутым*
*Трымаеш над сабой.*

Зусім відавочна, што «разгорнуты ручнік», у якім сталіца краіны трымае неба над сабой,— не толькі асаблівасць сялянскага светаўспрымання лірычнага героя, але і вера ў тыя першародныя каштоўнасці, на якія і сёння абапіраецца свет.

У кожным факце, у кожнай падзеі, якія прыцягваюць увагу паэта, ён імкнецца ўбачыць выяўленне самой сутнасці рэчаіснасці, месца ў ёй чалавечай асобы, народжанай дзеля таго, каб адбыцца, пакінуць свой след. Шкадаванне аб няздзейсненым часта афарбоўвае радкі Яна Чыквіна ў мінорныя таны. Але гэта не песімістычная безвыходнасць, а той натуральны сум па няспраўджаным, які будзіць у чалавеку прагу дасканаласці:

*Лета мінае. Апошняе лета.*
*Багрова-ліловае, ціха-замглёнае,*
*Радасна-кволае, велічна-сумнае.*
*Лета маё. Неўрадлівы палетак.*

*Лета канае. Апошняе лета.*
*Чэрствым агнём, святым, неўміручым*
*Гасне і тое, што мелася збыцца...*
*Лета маё. Гарацъ фіялеты.*

Каб зразумець і ацаніць творчасць Яна Чыквіна, нельга не ўлічваць тыя рэальныя ўмовы, у якіх адбывалася станаўленне і працягваецца яе развіццё: судакрананне дзвюх культур — беларускай і польскай — уплывала на фарміраванне адметнага мастакоўскага характару паэта,— з яго ўскладнёнай метафарычнасцю, капрызнай вірлівасцю рытмаў, з разнароднасцю лексічных пластоў і стылістычных канструкцый. Але ж гэтая паэтычная шматколернасць — не вынік аўтарскага жадання пакрасавацца стракатым уборам формы, гэта — адбітак непаўторнай жыццёвай дарогі і долі паэта. Узнёслую паэтычную крону вершаў Яна Чыквіна поіць глыбінныя сокі карэнняў роднай зямлі, таму, спадзяёмся, аматары прыгожага пісьменства ў нашай рэспубліцы з прыязнасцю сустрэнуць кнігу «Светлы міг», знойдуць ёй належнае месца ў сваіх бібліятэчках.

*Пятрусь Макаль*





* * *

Паверыўшы ў паэзіі крыло,
Ў інтымнасць Сафо, элегійнасць Крус,
Агню я аддаю свой груз,
Паверыўшы ў паэзіі крыло.

Лячу я на тваё святло.
Загінула ў ім Сафо, дэ ля Крус:
Або замяккае было крыло,
Або — зааб'ёмісты быў груз.



* * *

10 Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына!
Дзяцінства босае, замурзанае лета,
Святая студня з жураўлём ўспамінаў,
Сезам, дзе ўсё маё ляжыць ў фрагментах.

Даўно я гэты дзіўны горад кінуў,
Як ўсё, што хочаш ці не хочаш, ў Лету.
На сценах памяці вісяць партрэты
Выразных і яскравых сёння ласк матчыных.

Дарога ўсё вышэй, вышэй пад гору...
Назад сысці, вярнуцца да пралогу?
Дык мацярынства — як гарачка ў хворага!

Іду сваёй нятоптанай дарогаю
І чую праайчыны ўсюды подых —
Бягу на Аю-даг, гляджу на Чорны воды.

...ія

...лая, ты снішся мне...
...рана ўстану — адно гора:
...ол — непадступны снег,
...ол — маўклівы горад.

...ядаю моўчкі ля акна
...веру — прыйдзеш да мяне,
Ужо без смеху і віна
І непадступная, як снег.

* * *

Муза не спіць.
Муза стаіць за плячыма.
На вуха дыктуе ўсё
Словы, словы, словы...
Словы тут жа чарнеюць,
Згарэўшы,
Як куль саломы.
Сяджу папоцемку —
З аслеплымі вачыма.

* * *

Пад ліпамі душна, як у форме санета. 13
Нідзе не ўцячы ад ценю, запаху
Мядовых алей, птушынай адвагі,
Ад попелу сонца, заклятага ў лета.

Жыты́ да калень, ад палёў разагрэтыя,
Струняць, наліваюцца хмельнаю брагай,
І сонца цячэ безупыннаю смагай
У каласы — аж даспее палетак.

Жыву распаўсюджаны ў цесным пакоі,
У паасобных трываю прадметах —
Паломнік, паверыўшы ў шчасце зямное.

Куды плывуць усхваляваныя летам
Палі, туды і я спяшаю,
Загледжаны ў прыгажосць роднага краю.

## Восень — я — вясна

14 Надыходзіць пара восені — я хварэю з ёю
І хаджу, як адурманены, з цяжкай галавою.

Адлятаюць з мяне думкі, як у вырай птушкі,
І гайдаю я бярозу, каб яе разгушкаць.

Спадзе дадолу лісце жоўтаю травою,
Я — не я, а восень, што з ахвотай згноіць

Прыгажосць і спеласць ўсіх садоў у вёсцы —
Да мажлівасці наесца і не скажа досыць.

Будзе зіму ўсю малоць у сваіх жорнах
Млосныя адходы, краявіды чорныя,

На таку ляжаць у скамечанай саломе,
Забыўшы пра вялікдзень у святочным доме.

А потым уваскрэсне недзе ў канцы мая
Цёплай зелянінай — душэўным змаганнем.

## Май

Шумна-зялёны мой май,
Як жа даўно цябе маю!
Даўжэй, даўжэй калыску дзён маіх гайдай;
Далей, далей вядзі мяне па белым краю.

Я — голас твой, я — першы ўздых вясны,
Калі яна падымецца з карэнняў
І, наліваючы цяпло ў пасудзіну раслін,
Спаўняе таямніцу зноў маяхрышчэння.

З напору светлай вільгаці будуецца зялёная
павець —
Шматпавярховы дом прыроды самап'янай...
Заняўся бэз агнём, і круглы месяц будзе фіялець,
А разам з ім і я ў вячэрнім сіласе духмяным.



## Светлы міг

Трымае лес над галавой вянцы.
Журліва-светлы перадасенні міг...
Праз прызмы дрэў бягуць ганцы
Салярыс грэйнага яшчэ для нас дваіх,
На нас дваіх вось гэты шчасны міг!

Як ластаўкі мы — што ў палёце адчайным
Крылышкаюць над чужароднай ім гладдзю вады —
Душой імкнёмся ўвысь, ляцець абы-куды,
За гэтым сном з адкрытымі вачамі —
Убачыць яснасць з боку тайнай цемнаты.

* * *

Цябе няма, і ўся зямля маўчыць. 17
Зацiхлі рэчкі горныя навечна.
Няма куды спяшацца мне цяпер —
Ўсё роўна: дзе я, хто я, з кім я.

Ты адышла, як адыходзіць цень
На грані дня і ночы ад прадметаў.
І толькі недзе ўвысі тваё імя
Звініць трывожнаю актавай нада мной.

2 Зак. 1683



* * *



Капаціць ціхамірна. Ападае імгла.
Гэта ўсё на пагоду сонцапраменную.
Толькі болю імгла з душы маёй не злягла
І душыць яе плітою мёртвакаменнаю.

Паўзе ў капілярах. Як іголкі праз мох.
З жару крыві расцвітаюць калючыя ружы.
У квецці гэтым ў грудзях лётае-кружыць
Спалоханы дрозд
З крыкам,
Чутным з высот галавы да паніжаных ног.



## Старасць



Добры дзень, сястра мая, бяроза,
Прывітанне вам, браты дубы,
Я вяртаюся з вялікае дарогі
І хачу прылегчы недзе тут пры вас.

Стаў губляць ужо сляды я
І пятляю па дарозе ў белы дзень —
Сцежкі не бачаць вочы сляпыя,
Людзей не чую — нямоглы, глухі.

Сюды рука прывяла ваша — кій,—
Добразычлівы мой праваднік;
Вядзіце мяне ў гушчар,
Перад сыходам абмыйце дажджом,

Распраніце мяне да касцей,
Укіньце ў воўчае зелле,
Не склікайце ніякіх гасцей —
Хай па мне растанцуецца зелень.

## Бружмель

20 З календара свайго
Дзень адрываючы наступны,
Як корч бружмелю кідае лісцё
У жорны восені, у фіялетавы агонь —
Я шчаслівею з кожным днём,
Шчаслівы у карэннях долі:
Слабее у грудзях мой першы з нараджэння крык
І патухае ў сэрцы распалены пажар;
Перахварэла ўсё — і не засталося болю,
Ні знакаў запытання, ні затоенага жалю,
І менш расплат, і менш падлікаў!

Паўдрэва голае, пад неба ўюся зорнае
І вечнасць п'ю глыткамі невялікімі.

## Прымірэнне

**Дубіцкая элегія**



Калі на галаве сівее мох,
І плечы горбяцца пад грузам дзён,
І зношаных не чуем рук і ног,—
На могілкі, каб адпачыць, ідзём.

І седзячы ля долу, у канцы дарог,
Дзе вечнасць набірае свой разгон,
Мы лёсу дзякуем, што кожны мог
Жыцця свайго паслухаць перазвон;
Сярод жывых пабыць жывым,
Дзе гоман, рух, душа баліць,
І смагласць ёсць, і можаш піць
Ваду і сонца, ссаць сцябло травы...

І вянем, адыходзячы,— і нікне цень,
І ўжо для нас ні ноч, ні дзень,
І намі выжыты нам дадзены наш час,
І — няма ўжо нас для нас.

## А дом наш...



Вечарам духмяныя ўстаюць агароды,
Бярозы рукі апускаюць у крыніцы,
Чаромхі ўецца неслухмяны водар,
Як віно, якога нельга ўжо напіцца.

І галасы сяброў, і клёкат бусла з клуні,
І лугі, дзе конскія пасуцца грывы,
І сон глыбокі ветру ў самы поўдзень,
І трава іржавая па-над абрывам.

У садзе нашым зноў цвітуць кусты язміну,
Макі грэюць рукі, узняўшыся высока.
А дом наш, як далёкія ўспаміны,—
Без дзвярэй, без тынку і без вокан.

* * *

Дзяцінства
за мною
няспынна ідзе
у размалёванай
фарбамі
сонца сукенцы,
як
адно звяно
незабыўных падзей
у сугуччы
даўно
абяцанай надзеі.
За руку
не трымаў мяне
Асвенцім.
За руку
сястра вадзіла
на раку,
дзе чорных ракаў
злоўленых
жыўцом пякуць.

## Прадказанне

24 Таня мая,
Нялёгкае наша жыццё.
У калодзеж упалі ключы —
Ні я ад цябе,
Ні ты ад мяне
Не можам ўцячы.

Замкі паіржавеюць
Пад старасць,
Калі ў жылах
Будзе вада —
Часу пясок
Засыпле ўсё
І нічога ўжо не аддасць.

* * *

Цішыня. Цемната. Піяніна
І ты — сястра пявучага аргана —
Дзве птушкі, два аднолькавы маўчанні,
У клетцы грудной і ў клетцы драўлянай —
Свет недаступны.
Свет зачараваны.

* * *

26 На бяду сваю, на бяду
Праз жыццё ўсё я подбегам іду.

Усё жыццё я подбегам іду,
За сабой дачку з жонкаю вяду.

Дзве душы за сабой вяду
Праз шырокую і мутную ваду.

На сваю бяду, на сваю
Ваду гэту сам лію і п'ю.

# Агарод



Ішлося з хаты проста ў агарод:
У гушчу вырастаючых жаданняў,
У сонечны затон, ілюзію свабоды,
У постаць трагічную ды самазваную,

Ў руіну зелені, ў кварталы беднаты
Чырвананосай моркры, рэдзькі горкай,
Дзе ў паўзмроку водгукаў інтымных
Ірваў я радасць з горыччу аднолькава.

Абрыдлы плот схіліўся, як вазніца,
Наставіўшы каўнер імху на злосны вецер;
Няма дарог тут, і нікому нельга заблудзіцца
Ці выскачыць з нябачных часу сецяў.

Маё жыццё, мой браце — зелля гэтага уздым,—
На градах зблытанае неверагодна.
Дні замяняюцца ў калючыя кусты,
А ружы не знайсці — ніводнай.



* * *

Цёплыя фарбы жыцця:
Дзяўчаты пояць жывою вадой
Аргамакаў пры ганку. Шчокі гараць.
Хлопцы прыехалі. Хіба ў госці?
Сад поўны пчол. Адчынілі акно.
Пад гукі гітары спявае хтосьці,
Срэбныя сцеле цянёты —
Свет спакушае.
Мяккасць ліп.
Скрылікі сонца ў летняй шкатулцы.
Душы напоўнены песняй малітваў,
Радасць дзявочая — хмельнаю хваляй.

Выйшлі і вывелі коней на вуліцу.
Грукат здзіўлення, даўкі жаль...

Маці з гарода нясе памідоры
Ды кідае іх парасятам голым.

## На смерць вепрука



Па-кашэчы заенчылі дзверы.
Каморка каўбасой патыхала:
Вяпрук дзве-тры таму нядзелі
Раздвоіўся на мяса і на сала,
Раз'ехаўся ў хаце пад нажамі —
Адпала галава, цёплая вантроба
Упала ў міску. Кот піў кроў, бо
Іншае ўсё вышэй ляжала.

Кішкі пераліваліся ў балею,
Ў патэльні свежына збіралася ў скваркі —
Ніводнай смерці ў нас няма без чаркі!
Наліце шчэ! Мы нарадзіліся свіннёю.
Яшчэ, яшчэ наліце гэтакай атруты!
Мы — свінні! І без іх нічога мы не варты.
Сюды, на стол, вэнджаныя путы,
Хай зацалуем сальцісонаў кшталты!

А салам мы памажам дзверы,
Каб так страшэнна не скрыпелі,
Бо гэтае скрыпенне — не іначай,
Гучыць як гімн на смерць свінячую.

* * *

30 Слухаць музыку любіў мой дзед:
Ад незапісаных гадоў
Круціў пласцінку жорнаў.
І коўш мукі быў поўны.

А мы — дзеці яго дзяцей —
Муку малоць гатовы
На «фанамастры» новым,
Бо музыкі нам недаступная ідэя.

* * *

Стаялі коні на тратуары.
Ніхто не ведаў: чые? чаму?
На месцы тым, дзе быў хамут,
Віселі звонкія гітары.

Натоўп людзей, як жыта летам,
Хістаўся ў нарастаючай гарачцы...
— Гарэзнікі! Прайдохі гэтыя паэты!
Вучыцца ў школу! Ды — да працы!

І выйшаў нейкі гаспадар.
У воз запрог іх, засупоніў
І скінуў скрыначкі гітар,
І ўсе ўбачылі, што гэта — коні.

* * *

32 Прыйшла ў вёску ранняя вясна.
Адліг мароз. Нарэшце чаўкае балота.
Жанчыны, як гітары, чысцяць боты.
А можа, гэта толькі шпакаў мітусня?

Ля студні дзынкнула вядро —
Сарока ўздумала вадою прычасціцца.
А можа, гэта гожа маладзіца
Свой смех на смех рассыпала кругом?

## Мядовая грэчка

33

Зямля парастала грэчкай мядовай.
Дарогай па схіле гары
З касою ішлі салдацкія ўдовы
Атаву касіць, аб вайне гаварыць.

Унізе ляжала цёплая рэчка.
Тут ракі жылі і рыба была.
Тут ён быў, касіў... І толькі ўдава
Ведае горыч мядовай грэчкі.

Усё змяняецца: луг пераходзіць у рэчку,
Жыццё — у смерць, жанчыны — ва ўдовы,
Сонца з пяском — у грэчку мядовую,
І толькі малітвы жаночыя — у спрэчку з богам.

3 Зак. 1683

* * *



Ёсць у нашым беластоцкім краі
Незвычайнай прыгажосці жаночыя твары.

Высакароднай прыроды цудоўныя блікі —
Святыя аблічча, каханыя лікі.

Як ад агню, ад іх займаюцца чэрствыя душы
І, згарэўшы датла, стаюцца велікадушнымі.

І ад чараў гэтых мы штораз уваскрэснем,
Абнятыя жарам жаночым, нябесным.

* * *

Ноч ясная тваёй душы
У ціхай прыстані пасцелі,
І цячэнне рук ў цішы
Па ўсім ўзбярэжжы цела.

Снілася ты мне ў вяках.
Набліжалася спатканне.
Як жа доўга я чакаў!
Як жа на сябе мы глянем?

А цяпер чысцейшую таім
Думку аб яднанні.
З патанаючых вачэй тваіх
П'ём не намі выдуманае каханне.

Донна Марыя і Магдалена,
Клеапатра, Беатрычэ...
Адусюль імёныклічуць,
І да іх я — на каленях.

Наша ноч ужо бяжыць
Светаценем, гукаграннем...
Цёмны дзень тваёй душы
Ў ціхім сонным калыханні.

## Дождж

Шкада ліпнёвага дажджу: прыйшоў і не астаўся—
Пайшоў кульгаючы, такі высокі, мокры.
Дарма не закрывалі аканіцы ў нашай хаце
І адчынілі насцеж, ад душы, ўсе вокны.

Пайшоў... Дарогі не пытаўся. Толькі наплакаў
У каляіны ды вымачыў да ніткі падаконнік,
І сцежку ў сад пагорбіў і пакрыў лакам,
І сцежка з гэтае пары — як земляны гармонік.

На сялібы аглядаючыся, чуючы трывогу,
Разгневаны на межы, загончыкі-паленні,
Выбраўся няцвёрдым крокам на бальшак-дарогу
І сыпаў мокрыя зярняты направа і налева.

* * *

На плоце сарокі плакалі
Не ў згодзе з заўтра і ўчора.
Быў дзень зусім абыякавы,
І вёска чакала на гора.

Немач ляжала, як сена,
Як зганьбавана дарога;
Насустрач матывы вясеннія
Гнала з падкіслых аброгаў.

Паветра ў праездах трубіла,
Лісцё распаўзалася ўпотай,
І хтосьці магутнаю сілай
Ляскаў чужымі варотамі.

Быццам душу адчынялі,
Каб вытрасці голае цела.
Быццам сумленне ірвалі
Рукою здранцвелай.

Так цяжка было ў прыродзе,
Што ўсё на калена аддана
Упала. І белы штóдзень
Перапачварыўся ў вандала.

* * *

За вёскай з сена ўставала надранне, 39
З-за лесу сонца цякла пазалота,
Як быццам нехта кранаў фартэпіяна
На вырaслых па гародах нотах.

Усё было справядліва ў прыродзе —
Далёка дзесьці была недарэчнасць
Адвечнай смерці, што прыйдзе і пойдзе,
А ўсё-такі нешта пакіне на вечнасць.

Маўчалі яшчэ каляіны дарожныя,
Дзе-нідзе хаты курылі цыгары;
У невядомае людзі ішлі асцярожна,
Баючыся смеху на выспаным твары.

І час стаяў, як ракіты на лузе,
Гнуткі, жывы, працякаючы ў хаты.
Над вёскай міску неба трымаў бусел,
Каб заўжды тут было толькі свята.



* * *



На соннай Нарвы вадзе —
Месяц струной залатой.
Начную песню гудзе
Апошні казадой.

І дзесьці ў змрочных кустах,
З бягучых у балота ракіт
Чулліва іншы адклікнецца птах,
Ды так, што аж сэрца шчыміць.



І — як абрыў — цішыня,
Па якой, як па коўзкаму лёду,
Хтосьці вядзе каня —
Выпіць з Нарвы воду.

Усё магчыма ноччу такой,
Калі ваду так прагна п'юць...
І Нарвы змяіная ртуць
Праткнута стралой залатой.

* * *

Не проста сена воз, а толькі так:
Пахучая травамядовая гара
Паўзе дарогаю маўкліваю, аж страх,
За Магаметам — соннаю кабылаю.

А можа, гэта трава забыцця,
Прызначана лёсам сляпым жывёле?
Не ўспамінаюць ні конь, ні карова-цяля,
Не наракаюць на цяжкую долю.

Што варта хвіліна такога жыцця,
Звяругі, быдла, нікчэмы?!
Не ешце, не ешце травы забыцця!
Стварайце культуру — і тэарэмы.

Не проста сена воз, а цяжкая гара,
Стог палыну, атруты конь Траяна
Паўзе дарогаю запыленай, аж страх,
У вёску, страшнай сілай кіраваны.

## Сад

Сад мой, садок,
Душа найлепшая з душ,
Прыбяжы да мяне ў Беласток
У белай кашулі груш.

Зялёным сваім нутром
Надыхаеш даўніх мне сноў.
З ветрамузычных кустоў
Запалымнее цяпло.

З пахучых рук тваіх
Ссыплецца звон-цішыня
На пажыццёвы мой міг,
На другую палову дня.

І твой пчаліны фэст,
Як гэтага дня благавест...
Ды не сарвецца з карэнняў мой брат,
Ашчасліўлены сад!

* * *

Вя́зе мой слаўны, вя́зе вяковы,
Ці шчаслівы ты ў шапцы вясковай?

Брыдзеш ты па свеце кульгавым карэннем,
Як факт аўтэнтычны, канкрэтнае здарэнне.

І рукі скрыпяць у суставах старэчых,
І мову птушак стаў ты калечыць.

Зусім адзінокі, як нейкі філосаф,
Ты днём раўнадушны, а ноччу галосіш.

Бо як жа, бо як жа ўстрываць, мой дружа,
Калі шчэ жывы — калі ўжо нядужы.

Нядужы паветра збіраць у карэнні,
Свядомы, што рухнеш, ўпадзеш на калені.

Свядомы, што хутка, што заўтра, што зараз
Жыццё праміне, непаўторнае і велізарнае.

Мой вя́зе з дзяцінства, з бацькоўскага краю,
Прыеду ў вёску, цябе не пазнаю.

І ты мяне не пазнаеш таксама.
Убачыш — палічыш няпраўдай ці зманам.

## Нацюрморт



Сцякае кроў з галоў кароў.
Побач ног стажок — кароценькіх, бяскроўных.
Абух сякеры ды нажа лязо
Сохнуць, ззяючы, ў нізкім сонцы Дубічаў
Царкоўных.

Такі канец тут усяму. Вачэй бяльмо
Варона адчыняе, як у іншы свет акно,
У якім дварняга пёс
З чужых касцей злосна свой чытае лёс.

## Пошукі



Сышліся ў пустым парку лаўкі.
Голыя дрэвы. Ранак туманны
Усе алеі ў Лазенках заслаў
І вабіць мяне сваім падманам.
І я іду, чарам паслухмяны.

Каго шукаю, куды іду,
Калі ногі расплываюцца ў тумане?
Што ў пустым парку раніцай знайду,
У Лазенках, зачараваных падманам?
Іду, прыгажосці паслухмяны.

І цябе знайду, мая дзяўчына.
Вобраз твой з расы ранняй і туману,
Паразвешаны на кветках і галінах,
Цягне ў парк сваім падманам.
Добра, што іду яму я паслухмяны.

## Майстэрня паэта

Няма ні славы, ні багацця —
Адно скрыпучае пяро
Тырчыць з чарніліцы рабром.
І крыж для новага распяцця.

На сцяне маўклівы Ван Гог,
Са шклянкі лезуць фіялкі.
Вярнуўшыся з дарогі, палка
Змучана глядзела на парог.

Змяркалася. Рука ляжала,
Згорбіўшыся па-старэчы,
А са сцяны спаўзала жаласнасць
І трывога насустрэчу.

* * *

На ўсе лады
Скуголіць
Нашая планета.
У зайздрасці
Няведама куды
Імчыцца —
Ніхто
На свеце ўжо
Не слухае паэтаў,
І, пэўна, Ромул
Непатрэбна ссаў
Ваўчыцу.

## Веравызнанне



Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Паддаючыся салодка-дымнай плыні вуліц,
Быццам човен пушчаны на віры скрыжаванняў,
На пацвілыя затонні плошчаў абамлелых,
На зялёны шквал акварыумаў-паркаў,
У якіх жывуць паўсонныя русалкі-нянькі
І не спяць адважныя малакасосы.

Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Захапляючыся музыкай здаровай тэрміц'еры,
Архітэктураю чэрствых незнаёмых твараў,
Астравамі непракіслай радасці дзіцячай,
Буйнасцю правакацый кшталтаў жаночых,
Колерам, духмянасцю іх высокіх позіркаў
І такім жа міла-мілым тлумачальным
найгрышам.

Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Аглядаючы раздзьмутыя вітрыны магазінаў,
Манекенаў, бы студэнтаў у час экзаменаў,
Піраміды падхарошаных дамоў патрыцыяў,

4 Зак. 1683

Негалосных купалаў вымоўнае маўчанне
І музеі, у якіх здавён-даўно запісана,
Як было, што дзе ёсць і што, напэўна, будзе.

Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Пазнаючы распарадак лёсаў чалавечых,
Каляндар прыліваў і адліваў шчасця,
Графік болю нараджэння, болю скону...
Гэту кнігу недапісаную я не дачытаю!
Як прыемна ісці... Нават не стамляе думка,
Што не ведаю, дзе буду начаваць.

## Паэт на чужыне



Адстаю ад крылатай стаі —
Ужо не далячу да краю,
Дзе крылы мае выраcталі.

Пабрацімы — бел-белыя гусі
Ляцяць ключом спрадвечным
Да гнёздаў сваіх, беларускіх.

У тым адхоне, дзе я сканаю,
У тым пранізлівым бляску
Я вельмі самотны — айчыны не маю,
Матчынай ласкі.

* * *

52 Зялёным агнём набрыняла трава.
Гэта радасць вясны, а мяне там няма.
Ходзіць вецер па полі на тонкіх нагах.
Гэта песня зямлі, а мяне там няма.

Праз дзён пясок і каменне начэй
Прарастае сляза гарадскіх вачэй.

## Лета 1980



Мокрае сена дня сырога,
Клеіць вецер старыя афішы.
Енчаць ў папоцемках шчэнткі былога,
Шэрасць абрыдлага, мінулага мышы.

Радасць ўчарашняя, сумна-прыгожая,
Усё намагаецца ў мелодыю выліцца —
Фебрыць душы струна кожная:
То сціхне на момант, то зноў насіліцца.

Час задрыжаў і звініць, як струна!
Жывых не растуць уяўленняў сцябліны —
Хто гэта месіць воду і гліну?
Хто гэта кінуў пракляцце на нас?

## Навальніца ў Беластоку 1981 года



Быў цяжкі дождж.
І божы дзень быў хісткі, як дрыгва.
Грымела ў калодзежах дамоў,
Як мора вечнае гвалтоўні.

Нібы прабегла вуліцаю дзетвара —
Праехала пажарная машына:
Гарэлі сцены пачарнелых хмар,
І з вогнішча тырчаў асмолак сонца.

Руіны паркаў, шуму акіян,
І мітусня машын, і цела чалавека
Глыталі музыку адчыненых нябёс.
І крылы выраслі ў кожнага жадання.

Што сёння ёсць і заўтра можа быць,
Лілося, плакала, стагнала,
Каб з чорнай глебы нашых дзён
Раслі будоўлі нашых мараў.

# Партытура

З грацыі кветак музыкай тхне.
Восень на нотах развешана.
Блішчыць высока лета бабіна —
Шчасце, устрывожанае ўсмешкаю.

Восень топіць увесь агарод,—
У водары плюхацца будуць
Дыні, як у бульбе вярблюды,
І парэчкі з чорных парод.

Пад грушамі зноў грушапад,
Нібы заплакалі грушы,
Што нельга ім ў полі пагушкаць —
На ключ жураваоў замкнёны сад.

І плот, як раяля хрыбет,—
Ноты сохнуць, развешаныя
Па ўсім ўзбярэжжы
Саду. І з кветак — музыкай тхне.

## Элегія фаталізму



Даспяваюць яблыкі ў садку.
Водару тут большае штоpанку.
На залатазвонкіх струнах ткуць
Малінаўкі асеннюю санату.

Паслухмяна жоўкне цішыня,
Затапляючы па ўскраі просінь,—
Як душа імкнецца ачуняць,
Калі целам нашым корміць восень!

Наваколле прыгажосць святкуе,
Б'е ў званы апошніх дзён —
Жыцця кароткага разгон
Па турме блакітнай усляпую.

Не адыходзь ў нябыт, мая прырода!
Яшчэ людзі недаспелі,
Яшчэ жанчыны ў цяжкіх родах
І не ўсё выказацца ўспела.

## Беластоцкая элегія



Лета мінае. Апошняе лета.
Багрова-ліловае, ціха-замглёнае,
Радасна-кволае, велічна-сумнае.
Лета маё. Неўрадлівы палетак.

Лета канае. Апошняе лета.
Чэрствым агнём, святым, неўміручым
Гасне і тое, што мелася збыцца...
Лета маё. Гараць фіялеты.

Лета кароткае. Просінь над краем.
Музыкай тхне, зямля ў фіялетах.
У вечнасці ўсе мы жывём-паміраем
Няўлоўна штодзённа, нячутна — як лета.



## Плач Яраслаўны



Князю слава, Святаславу!

О Святаславе, Святаславе,
Зямля сыра табе пасланнем!

На вечны сон яшчэ зарана!
О дзе ж твая сіла, дзе ж твая слава!
О княжа, дружа Святаславе!

О ўстань, вялікі, ў ярай славе!
Буй Тур над рэчкаю Каялай,
Князь Ігар там цябе чакае,
Ляжыць — мядзведжа шкура разаслана.

Дружына ў зараслях чакае —
Імхом зялёным прараслі ім плечы.
Нядаўна бой з паганцамі тут быў вялікі,
Цяпер маўчаць іржавыя ў руках мечы
І тонкімі бярозамі растуць з зямлі ім пікі.

Твой конь спыніўся над ракой Каялай.
Ён воду піў — вада спрыяла.
Твой конь спаткнуўся над ракою Летай.

Ён хроп і гроб зямлю капытам гэтак,
Як быццам бы заглянуў у вочы смерці.
Ты спіш, о княжа, я ў гэта веру!

О Святаславе, Святаславе!
На вечны сон яшчэ зарана!
О, ўстань, вялікі, ў ярай славе!
Дружына ў зараслях чакае.
Твой конь спыніўся над ракой Каялай.
Прачніся, мудры Святаславе!
Не ўсё яшчэ ўладкавана!

Стаіць над князем Немезіда,
І меч ў руцэ блішчыць варожа.
Ад гэтай помсты ўцячы ніхто не зможа!
Меч у зямлю ўваткнула слаўны —
Няма ў яе ніякай непрыязні,
Хоць каму прабачыць, таго і смерці выдасць,
Бо дзень і ноч — два крылы князя,
А ўсход і захад — Яраслаўны.

## Дзяўчына з павоем

60 Выплыве са змроку каханы мой —
Павой ажывае на мяжы маўчання.
У сонечным бляску не расцвіце павой.

Не скажу: «Кахаю!» Ён крыштальнай гранню
Паміж штодзённасцю і казкамі. Рукі
Лашчаць далікатнасць яго дыхання.

Бязветранасць, што ён прыйшоў, парукай —
І з закаханых рук маёй дзяўчыны
І радасць першую, і павой бяру.

## Варшава

Ёсць у Варшаве хараство
Грэцкіх німф і рымскіх карыятыд,—
Калі з неонавых кастроў,
Вечарам,
Сірэнай з Віслы, голая,
Выходзіш ты
І неба зорнае
Рукою кволаю
У ручніку разгорнутым
Трымаеш над сабой.
Ёсць у Варшаве хараство
Алімпійскіх гульняў, гладыятарскіх арэн,—
Калі шнурочкамі мастоў,
Як багіні Ніке,
Праходзяць Ванды, Тэрэзы, Ірэны,
А дома да грудзей іх
Прынікнуць
Усялякія Ромулы і Рэмы.
А ў касцёлах — анёлы з раю
У сэрцы людзей каханне ўганяюць.
Моляцца, часта моляцца дзяўчаты
Да хараства, на крыжы распятага...
Варшава — майго сярэднявечча яма,
Над цэлым светам тваім дым фіміяма.

## Ікона

62 Іду са спаткання
ў натхнёнай задуме
і вобраз твой нясу, як ікону.

На ўзгорку
ў царкве звоняць —
святых склікаюць
на спатканне з народам.

Мне, грэшнаму, нельга там паявіцца,
святыя ўбачаць голае цела
дзяўчыны ў вачах маіх,
у вачах — кахання бліскавіцы.
З іконай сваёю ў царкву не прыходзяць.

* * *



І няма ўжо Івана.
І праз жыта скрай дарогі
Ішла з-над рэчкі. Закаханая.
Губы. Грудзі. Ногі.

Паслухмяны і зялёны
Вечар быў яе пасцеллю.
Ад напружанага ўзлоння
Травы пахлі яе целам.

У далонях сена прэлае
Шчэ нясла — як развітанне,
Як жаночае даспелае,
Загорнутае ў ткані.

Ёй хацелася зямнога
Шчасця. І яна яго брала.
І ваколіца маўчала
Перавёрнутай дарогай.

## Трыпутнік мілавання

1

Вечар цёплы чары чароўныя тчэ.
Мы ўдваіх пад небам, і ніхто нас не бачыць.
Хоць заўтра ўсе гаварыць будуць пра нашае каханне.

2

Калі мы ўдваіх, не гавары: кахаю!
Здзяйсняй каханаю мяне.
І я табе такою буду.

3

Калі ўвойдзеш у мяне, як у рэчку,—
Рытмічна вясло апускай у цячэнне,
Каб на досвітку выйсці па бераг жыцця.

* * *

Мы жывём. Якая радасць гэта!
Мы жывём, як антытэза да прадметаў.
Адчуваючы, мы бачым, ходзім
Па зялёнай сферы быту.

Мы жывём. Аднойчы і нікуды.
Мы жывём, кахаючы істоты,
Полем ходзім і ракой вандруем,
Вяжам ва ўспаміны ніткі сушанага лета.

Радуемся ўсяму на свеце,
У жыцці бываючы неспадзяваным госцем.
І, праходзячы праз Стыкс па мосце,
Бачым найвыразней часу вецер.

А пакуль жывём — няхай са звонам
Расшчапляюцца ў лабараторыях атомы.
Мы жывём і сілы невядомыя
Гатовы запрагчы ў сані фатановыя.

## Іду

66 Не спіцца, мама,
Сон павек не морыць.
Недзе у куточку
Муха тараторыць.

За акном далеча,
Смутак у пакоі —
Чым сэрца палечыць,
Чым жа супакоіць?

Узбураныя хвалі думак
Б'юцца аб начную прыстань —
Да цябе іду я
Крокамі вячыстымі.

# Сонечная дарога змяркання



Вечарэла. Кволай ноччу
Зацягнулася паўнеба.
А другая палавіна
Не магла расстацца з сонцам.

Што жывое — спаглядала
На чырвоную крыніцу.
Цішыня. Цяпло якое.
Камары стаўпом таўкуцца.

Без'языкая, святая,
Каляровая прырода
Непрыкрытая ляжала,
Як прыгожае стварэнне.

Мнагалікім птушкі хорам
Дзень хвалілі безупынна
Нескапчонай серэнадай,
Незмаўкаючай руладай.

Паслухмяна вечарэла.
Як лякарства неблагое,
Як насонная настойка,
У далінах пахла сена.

Гэтым пахам перагрэтым
Апічасліўленая рэчка
Замірала ў захапленні,
Ў меланхоліі цячэння.

Мост гарбаты над вадою,
Ўжо стары і ненадзейны,
Быў апошнім перапынкам
Для худых вясковых сцежак.

На расчыненых загонах,
У жытнёвай аблямоўцы
Пагасала млявым дымам
Дня апошняя хвіліна.

Ціха-шэра вечарэла.
Толькі велічнай трывогай
Дагараў паміж кустамі
Акраец сонца дарагога.

У цяпле яго сардэчным
Нараджалася дарога.
Пазалочанаю рэчкай
Бегла ўпоперак загонаў.

## Захад сонца
## ў ваколіцы Дубіч Царкоўных

У доўгім калідоры змроку,
Паміж стромымі сценамі часу,
Дзе ўвесь абшар парос маўклівасцю
панурай
І нікчэмна-буйна зноў маўчыць;
Дзе рэштка дзён асталася калекіх,
Каб у іх пажыць,—
У іскрыстым вэлюме чырвоным
Жоўты корч агню шалёна
Зноў на нас бяжыць.

І смаляцца дарожных вёрстаў шорсткія
падлогі.
І грыва траў гарыць вусамі зялёнымі.

І тлее лес ад рыжай навалочкі.
І кожны дом калышацца ў багровым дыме.

І з плыткіх рэк ды з балотных наваколіц
Пахучымі завітушкамі першы вецер родзіцца.

А там — брутальна дужаецца ў алеях сонных
Хараство адзінае:

Вось гэты поўзаючы мрок знішчальны
З творчымі сонца праломамі.

І толькі з Грабаўца ў самыя Тафілаўцы
Сляза цякла агністай міласцівасці.

## Элегія ночы

72 Калі заціхне гоман дня
І вечар прашуміць сварлівы —
Ох, як да ночы цягнецца Зямля,
Да губ яе маўклівых!

Чорнавалосая багіня,
Штодзённа йдзём к тваім рукам
Прасіць — не вечны адпачынак,
А забыццё пасмакаваць,

Паспрабаваць бяздоння часу
У міг адзін, ў шчыліне — дні,
Калі жыццё стаіць ў вачах
Глытком адвечнай цішыні;

Пазнаць пустынны шлях прастораў,
Пакуль прыліў бязмежнага святла
Не пазалоціць зноў зямны наш панадворак —
Да Ночы цягнецца Зямля.

* * *

У звонкім небе дзень растаяў.
Вячэрнім сумам свет накрыты.
Ноч кнігу вечнасці чытае,
Хоць мы ёй пішам манускрыпты.



6 Зак. 1683

* * *

74 Цячэ рака ў карыце ночы,
І ноч цячэ па схіле дня;
Цякуць ракою сны прарочыя,
Але таксама й балбатня!

## На папасе

Мы паслі ноч.
Гарэў касцёр духмяна,
І падалі,
Бы скваркі,
Зоркі ў атмасферу.
Стаялі горы нясоленай атавы,
І цемната
Яе трымалася аберуч.

З кустоў, з птушынага сяла,
Драчы крычалі горка,
Як быццам нехта іх абкраў
Ці пачаставаў махоркай.

На тонкім промені цяпла
Кружылі над агнём мы,
І песня нашая дзяўбла
Начныя сцены звонка.

Мы паслі ноч.
Балела галава ад папярос,
Ды каб не сон
І каб не бульбінкі ў загоне...
На выган дзень упаў і рос,
І ў чужым — зайржаўленыя коні.

* * *

76 *Памяці Ф. Г. Лоркі*

Ноч — як страшная катоўня.
Дом чырвоны — месяца поўня,
Ды па вуліцах пагоня
На чырвона-чорных конях.

Вяжуць кнігі, палязь песні
(Застанецца многа надзень).
Ноч — чырвоная чарэшня —
Дагарае у Гранадзе.

Горад —
ад насілля аслабелы,
змучаны ад крыку: —
«Фэдэрыка!»
«Фэдэрыка!»

Ноч прайшла. І краявід
(Лепш, каб вочы не глядзелі)
Пачынаўся чалавекам
І шклянкай крыві,
Разлітай пры ім.
І паслася смерці хуткай газель.

## Ля Белавежскай пушчы



Мякчэла ноч. Вільготнымі губамі
Сям-там ужо раздзьмухаўшы святло,
Свежай раніцы пахучая атава
На паплавах ляжала, быццам палатно.

З імглы ўсплывалі дрэваў абеліскі
І пірамідьі клуняў — ціхіх, тайных скрозь...
Ды раптам дзесьці побач конь жывы запырскаў,
Як папярхнуўшыся чужой ядою хтось.

І ні душы вакол — хто кволае цяпло
Вясняных золакаў на узбярэжжы пушчы
Рукамі паскладаў бы ў прамяністы стог,
Снапы калоссем вонкава мацуючы.

* * *

78 О, стойкія дзеці пушчы,
З непрыкметнай птушкай
У руках зялёных,
Ратуйце вашы душы.

Чуеце:
Грукат тапара,
Брынчыць піла,
Вішчыць піла.

Вянуць вязы —
Яцвягі.

Яліны — сёстры
У пошуме млосным.

Валяцца хвоі —
Зялёныя воі.

Дубы і асіны —
Рагамі ласінымі.

Бярозы ў неўрозе
Бягуць пры дарозе.

Хліпаюць ліпы ліпнёвыя —
Лета падлеткі.

З агністых палян
У шчырае поле
Таропка топаюць
Таполі.

Ва ўсю шырыню дня
Ценю бегатня.

Гэта пад корань так
Карчуюць маладняк.

За ногі алешнікаў
Жалезнымі клешнямі.

Галёкае голле
Хімічна аголенае.

Драўляным горлам
Дрэва стогне —
Гібее лясное сутонне.



## Адвечны дыялог



Маці з сынам селі на парозе.
— Жыццё, мабыць, зрадзілася ў далінах...
Сцяблінкай кожнай хоча быць прыгожым.
— Усе усопшыя у бозі.
— Глянь, мам, ідзе да нас сасна ў госці,
Як гожа-гожая дзяўчына.
— І можаш з яе дошак, сынку,
Ужо зрабіць мне дамавіну.



* * *

Дзе прападаюць рэчы вялікіх людзей: 81
Галошы Саванаролы,
Анучы Шэкспіра,
Вуздэчка каня Аляксандра Македонскага?

Дзе спачываюць косці
Першых уладальнікаў
Пікі,
Агню
І плуга?

Ці хто памятае
Першыя словы
Мікеланджэла,
Калумба,
Каперніка?

Ды прызнаймася перад сабою:
Ці змаглі б мы паўтарыць
З апошняй сустрэчы
Хоць два апошнія сказы
Нашых бацькоў?

* * *

82 І чаму так скора моўкне птушка Гамаюн!
Ах, нашто пісьменнікі так рана паміраюць
І з сабою промні сонца забіраюць у труну,
Ды чаму гарачым вуглем сэрца адчыняюць
Брамы успамінаў нашых,— нашу апраметную?

## Даспелае сонца



Я іду апусцелай вуліцай.
Да плячэй паўднёвае сонца
Ад цёплых бяроз лёгка туліцца.
Я іду апусцелай вуліцай.

Пад нагамі лісцё шапочацца,
Жоўтае, жоўтае бясконца.
Цалаваць былое так хочацца...
На плячах — паўднёвае сонца.

Сонца да плячэй маіх туліцца.
Жоўтае лісцё шапочацца.
Цалаваць былое так хочацца,—
Я іду апусцелай вуліцай.

* * *

84 Лодка і вёслы. Цвітуць берагі.
Пясочак сыплецца з жмені,
Як побыту нашага час дарагі.

Навокал струменны і творчы дух.
Плывём ці нясе нас цячэнне?
Як цела жывое, варушыцца струг.

Яснасць балючая б'е з глыбіні.
Вечнасць так свеціць ці толькі імгненне?
Мы — у жыцця пры стале агнявым.

Лёс даў вось шчасце моўчкі глядзець
Нашым мокра-чорным ценям,
Як вёслы бясследна бягуць па вадзе.

## Вячэрні роздум



Ціха ўсюды. Шэры вечар сеці
Кінуў. Ноч у іх ужо ірвецца.
Сумна мне. Няма спакою ў сэрцы.
Цемнатою заварожан, паддаюся смерці.

І чую я, перпетуум-мобіле часціна,
Знак запытання ў вечнасці бясконцай
І,— сын Гармоніі, сын Сонца,—
Як вырастае новае жыццё на маіх руінах.

А людзі, што праходзяць у маўчанні побач,
Мяне — ужо чвэрць чарвяка, паўдрэва ці мо
каменя —
Не бачаць, як б'юся аб нябыт я лобам,
Як прагна шчэ жыцця чапляюся рукамі —
Жыцця зямнога.

Адно жыццё на ўсё жыццё — як гэтага нямнога!

* * *



Усе мы
выйшлі па-за брамы раю.
Цвярозым холадам павеяла,
і расступілася пазнанне —
пром наперад,
назад не аглядаючыся...
Дый хто цяпер,
з далечыні такой,
у рай загляне.

І толькі ў снах,
дзіцячых ці старэчых,
праз гушчару штодзённых клопатаў
для нас
святло
ірдзее —
і так амаль ужо адвечна.

Ці ззаду нас,
ці спераду агонь мільгае —
ніхто не ведае,
хоць да яго мы цягнемся з надзеяй,
перакананыя,
што вяртаемся да раю.

* * *

88 Хочаш не хочаш
дадуць табе імя,
за сталом пасадзяць,
чарку сцябнуць
навучаць,
навучаць кусацца,
грашыць навучаць,
навучаць уцякаць,
дабро капіць
навучаць,
навучаць пагарды да людзей,
ілгаць навучаць,
навучаць лазіць пастаянна ў рай
і раней бацькі ў пекла не лезь —
навучаць.
Хочаш не хочаш
цярпі чужую дурноту,
пачатак дрэннага.

* * *



Мой чырвоны боль
з белым дымам бінту
заціхаў спачувальна.
Пара белых лебедзяў
праплыла, і я
выходзіў у зялёную даліну шуму.

Прыбой марскі
хістаў мяне
ў бакі, мяне няслі
навыперадкі ў даль.
Нептун нацэліўся трохзубцам
у грудзі,
і ты ў памяці маёй
балюча аджыла.

Спазняюся, крычу...
Няма пры мне нікога.
Боль чырвоны
белым дымам бінту разгараўся.
Сястры шпітальнай
твар усплыў
над маім жыццём
пацыраваным.

7 Зак. 1683

* * *

Муза працы, муза
цярпення і муза віны —
сёстры сясцёр маіх,

пакутніцы Хрыста Навіна,
і вас ужо ўпланавалі
ў атамны тэатр вайны,

і, можа, да апошняга
спектакля
асталася ўсяго гадзіна.

Калі ж агонь успыхне
пахавальны —
не будзе ні бога, ні сатаны.

* * *

*Дачцэ*



Прыгожая,
найменшая мая дзяўчынка,
хвілінка,
мімалётнасць
у разгойданай калысцы,
плывеш у часе
з усмешкаю матчынай
і з-за пасцельнай барыкады
яшчэ не можаш выйсці.

Цягнеш ручкі да сухіх прадметаў,
мову вяжучы з найпрасцейшых гукаў.
Пазнаючы таямнічасць свету,
ножкай ўздумала ты па ім грукаць.

Неспадзяваная,
цяпер названая,
заўсёды ўрачыстая
спіць.
І ўжо сон ёй сніцца.

Мне тут хораша стаяць,
бо цяжка адысці
прагнучаму ад крыніцы.

* * *



От так, без дай прычыны,
Сэрца напаўняецца трывогай.
Як ад ветру куст шыпшыны,
Нешта уцякае ва ўсе ногі.

Нешта уцякае, уцякае...
Колькі б ні ўцякала — заўжды з намі;
Раз пражытае вяртаецца,
Хваляй накрывае дзевятай.

Была. Стройная. Неба
У вачах, звалася «мая дзяўчына».
З вясною адышла, у запавеце мне
Напісала: «Твая ў тым прычына».

Не раз, не раз паўзлі цені...
І от так, без дай прычыны,
Налятае вобраз твой, як летуценне,
Нібы вецер той на куст шыпшыны.

* * *

Пара ўжо спаць. Гарацъ сузор'і.
У копах сена будзем спаць,
Не беларускім слове сенажаць.

І будзем спаць, як дзеці спяць,
Аб буслах казкі слухаць будзем,
Аб тоўстых жуках і вярблюдзе.

І з неба знімем пазалоту,
Каб спаць было мякчэй
Для цёплых вуснаў і вачэй.

І шэптам песціць будзем потым
Свае прывіды, мары, ўзлёты,
Пакуль ізноў не трэба ўстаць —
А цяпер на бок і — спаць.

## Так калісьці...

І так бывала колькі раз: лісты,
Прыехаць просьбы і вакзалы,
Дыхаючыя астматычным свістам,
І на развітанне клавіятура шпалаў.

Так калісьці ехалася да дзяўчыны,
Без білета на жыццё. Без злачынства.
Так калісьці пераліваліся гадзіны
У вядро юнацтва з возера дзяцінства.

Так калісьці ўсё было без дай прычыны,
З пэўных прадпасылак вывады маўчалі —
Што ж так рана пасівеў мой куст чупрыны
І чаму так рана пеўні пракрычалі?

* * *

Апоўначы не спяць, апоўначы гамоняць
За рэчкай, ў вёсцы беларускай.
Нязвыклы хлопец і гармонік
За рэчкай, ў вёсцы беларускай.

Плыве па рэчцы цёплы месяц,
Быццам на стол вясельны гуска,
Гармоніка і хлопца песня
За рэчкай, ў вёсцы беларускай.

Пад напяванне гарманіста
Цалуюць шчасце ў сенцах вузкіх —
Бярозкі ля дубоў плячыстых
Шумяць у вёсцы беларускай.

## Над возерам

Дзень кануў у азёрныя хвалі —
кароткая гісторыя пакрылася вадой.
Агністы рой замігцеў удалі,
вятрыска крылы паламалі,
і апусціўся на зямлю спакой.

Цішыня: ні шораху, ні крыку.
Адзінока мыецца ў возеры месяца рог,
на хвалях селі панны без ліку,
а дзядуля ў чаравіках
дбайна сцеле на лузе белы мох.

* * *



Дубічы, Дубічы,
Хмызняк і бярозы,
Пясчаныя ўзгоркі —
Як вам спагадаць?
Пра вас думаючы,
Крокам нервозным
Іду наўздагон
Тут не пражытым гадам.
Дубічы, Дубічы,
Нялёгка дарога
З вёскі ў горад
І з горада к вам.
Па вас сумуючы,
У сэрцы з трывогай
Іду наўздагон
Тут не пражытым гадам.
Дубічы, Дубічы,
Скрынка паштовая
Маіх дзён адышоўшых,
Як сон залаты.
Штодзённа любячы,
Я заўжды гатовы
Ваш след цалаваць,
Які не астыў.

## Гайнаўшчына

98 Ружамі пахнуць вятры надвячоркамі,
Гнездзіцца ў гушчарах маўчанне горкае.

Арэшнік да вуха рабіну клоніць,
Бяроза ўздыхае ў дзявочым паклоне.

Суседка ціхутка суседцы прарочыць,
На пяску вецер свой пакідае почырк.

Знаёмая дарога, лес, лугі, поле —
На Гайнаўшчыне дыхаецца ўволю.

І радасна ідзеш дамоў, лёгкі ногі,
Калі ведаеш: чакаюць з дарогі.

## Вяртанне



Вада
з крыніц
мацней
усялякіх він.
У люстэрка
нахіляюся
напіцца
сілы —
і лезе
цалавацца,
пропадам ты згінь,
чужы мне чалавек,
стаўшы над магілай.



## Змест

**Чыквін Я.**

Ч 97 Светлы міг: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1989. 102 с.: іл.

ISBN 5-340-00211-X.

Чиквин Я. Светлый миг: Стихи.

Паэт і літаратуразнаўца Ян Чыквін (нар. у 1940 г.) жыве ў Польскай Народнай Рэспубліцы. На яго творчым рахунку — шэраг паэтычных зборнікаў, выдадзеных у розныя гады на беларускай мове ў Беластоку. Вершы, якія ўвайшлі ў кнігу «Светлы міг», напоўнены фарбамі, непаўторнымі гукамі і тэмпераментам моўнай стыхіі Беласточчыны. Любоў і памяць, радзіма і прырода — вось асноўныя матывы, блізкія сэрцу паэта.

Ч $\frac{4702120202-040}{М\ 302(03)-89}$ 66-89 ББК 84 Бел 7

Литературно-художественное издание

ЧИКВИН ЯН АРТЕМОВИЧ

Светлый миг

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

ЧЫКВІН ЯН АРЦЁМАВІЧ

Светлы міг

Вершы

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк
Мастак Ф. А. Кашкурэвіч
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар Л. П. Бялова

ІБ № 3049
Здадзена ў набор 21.07.88. Падп. да друку 18.10.88. АТ 09706. Фармат 70×100$^1/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,19. Ум. фарб. адб. 4,39. Ул.-выд. арк. 2,44 Тыраж 3000 экз. Зак. 1683. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.